# СКАРБНІЦА БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ

## Да Выхаду ў Сьвет Заключнага Тому Беларуска-Літоўскіх Летапісаў у Выданьні „Полное Собрание Русских Летописей"

Апрацаваў: В. П.

БССРаўскі часапіс *Літаратура і Мастацтва*, №34, за 22 жніўня 1980 г. зьмясьціў цэнны артыкул: *Скарбніца Беларускай Гісторыі*, да выхаду ў сьвет заключнага тому Беларуска-літоўскіх Летапісаў у выданьні „Полное собрание русских летописей".

* * *

*ЯГУЛІН:* – Мікалай Мікалаевіч, варта толькі паглядзець на адваротны бок тытульнага ліста гэтай кнігі, каб зразумець, што вы – „галоўны віноўнік" таго, што яна ўбачыла сьвет. Таксама, як і 32-а тому. Вы і аўтар прадмоваў, і укладальнік, і рэдактар абодвых тамоў. З артыкула др. гістарычных навукаў В. Буганава ў кнізе „Источниковедение отечественой истории," я даведаўся пра тое, аб чым чуў і раней ад некаторых нашых пісьменьнікаў, – вы наш зямляк, родам з-пад Мінска.

*УЛАШЧЫК:* – Так, зь вёскі Віцкаўшчына

*ЯЛУГІН:* – Але ўжо, пэўна, гадоў зь пяцьдзесят не жывяце ў Беларусі? Буганаў піша, што вы пасьля таго, як скончылі БДУ (Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт) ў 1930 годзе, жылі й у Вятцы, і ў Казані, і ва Ўльянаўску, перш чым апынуліся ў Маскве, ды пачалі працаваць у Акадэміі Навук СССР.

*УЛАШЧЫК:* – У Маскве з 1947 г.

*ЯЛУГІН:* – Перш за ўсё дазвольце выказаць радасьць ад імя ўсіх тых, хто шануе літаратуру на гістарычныя тэмы, каго цікавіць наагул мінулае нашай Беларусі, што гэтая кніга нарэшце паявілася ў кнігарнях. Мы чакалі яе яшчэ ў мінулым годзе як і было абвешчана выдавецтвам „Наука".

*УЛАШЧЫК:* – Выхад тома затрымаўся з розных тэхнічных прычынаў.

*ЯЛУГІН:* – А наш кнігагандаль у Менску зрабіў такі мізэрны заказ на гэты том, што, думаю, задаволіць ня ўсіх, хто жадае яго мець.

*УЛАШЧЫК:* – Ведаю гэта па сабе. Я праз сястру ў менскім магазыне „Акадэмкніга" заказаў для сябе некалькі экзэмпляраў, каб ня весьці з Масквы такі цяжар на старасьці год, але мне далі далёка ня ўсё, што хацелася мець.

*ЯЛУГІН:* – Набыць патрэбную кнігу стала праблемай. Што-ж датычыць гэтай кнігі, то яна, як 32-і том, цікавая ня толькі спэцыялістам-гісторыкам. Тут могуць чэрпаць для сябе навукова правераны матарыял і пісьменьнікі, якія працуюць у гістарычным жанры, і тыя, хто вывучае гісторыю Беларусі, ды й наагул цікаўскія ведаць праўду аб гісторыі Беларусі. А гісторыю сваю трэба ведаць – і „добрую", і „кепскую". Нездарма кажуць, што ў мінулым – насеньне будучага. А матэрыял тут, хоць, можа, асабліва бяз падрыхтоўкі, цяжкаваты для чытаньня, але-ж вельмі цікавы ды зьмястоўны! Ёсьць старонкі, якія чытаюцца ня горш, чымся старонкі добрага рамана. І ўсё ня выдумка!

Вось вам, Мікалай Мікалаевіч, чытацкае ўражаньне ад кнігі. А што з вашага, вучонага пункту гледжаньня, уяўляюць сабой матэрыялы, названыя беларуска-літоўскімі летапісамі? Дарэчы, значную частку іх я сустракаў раней у семнаццатым томе, выдадзеным яшчэ да рэвалюцыі. Праўда, у новым выданьні чытаць іх стала значна лягчэй. Вы, Мікалай Мікалаевіч, стаялі ўвесь час ля самых вытокаў гэтага выданьня ў наш час, таму ведаеце ўсю гісторыю!

*УЛАШЧЫК:*–Гісторыя гэта даўняя. Некалі польскі храніст Мацей Стрыйкоўскі, кніга якога выйшла ў сьвет у 1582 годзе („Хроніка польская, літоўская, жмудзкая і ўсёй Русі"), больш чым трыста разоў спасылаўся на літоўскія й рускія летапісы. Калі ў XVIII ст. расейскія гісторыкі пачалі крытычна вывучаць творы Стрыйкоўскага, дык вырашылі, што гэты храніст быў проста фантаст, паколькі спасылаўся на неісную чыя крыніцы. А такая думка ў іх узьнікла таму, што ў XVIII стагодзьдзі ніхто ня бачыў ды нават ня чуў пра тыя летапісы, на якія спасылаўся польскі гісторык. Але вось у 1846 годзе літоўска-беларускі гісторык Нарбут, які пісаў па-польску, выдаў „Хроніку Быхаўца" (яна была напісана на старабеларускай мове лацінскімі літарамі). Гэтае выданьне паказала, што Стрыйкоўскі сапраўды карыстаўся летапісамі, вельмі блізкімі да „Хронікі Быхаўца". Праз кароткі час пасьля 1846 году было знойдзена яшчэ некалькі летапісаў, пісаных на старабеларускай мове. На 1864 год такіх летапісаў ужо набралася столькі, што акадэмік Кунік вырашыў выдаць іх асобным томам. Намер гэты, аднак, ня быў зьдзейсьнены, і толькі ў канцы XIX стагодзьдзя да нашых летапісаў зьвярнуўся славуты акадэмік Шахматаў, які вырашыў надрукаваць усе гэтыя летапісы ў семнаццатым томе „Полного собрания русских летописей". Шахматаў устанавіў, якія летапісы зьмясьціць у гэтым томе, і даў ім агульны назоў – „Западнорусские летописи". А далейшую работу па выданьні вёў дацэнт Пецярбургскага ўнівэрсытэту, польскі вучоны Станіслаў Пташыцкі.

*ЯЛУГІН:* – Таксама ведамы гісторык-крыніцазнаўца.

*УЛАШЧЫК:*–Так. Гэта быў вядомы спэцыяліст адносна крыніцаў у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

*ЯЛУГІН:* – Я карыстаўся ягонай кнігай „Описание книг и актов Литовской метрики".

*УЛАШЧЫК:* – Так, ён быў спэцыялістам у „Мэтрыцы", у яго ёсьць многа працаў з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

*ЯЛУГІН:* – Семнаццаты том ён выдаваў, наколькі мне ведама, даволі марудна.

*УЛАШЧЫК:*–Друкаваць семнаццаты том пачалі ў 1900 годзе, але пабачыў сьвет ён толькі праз сем год. Друкаваў ём з максымальным набліжэньнем да рукапісу, гэта значыць з захаваньнем усіх літар кірыліцы й фактычна без пунктуацыі, паколькі ў рукапісах знакі прыпынку амаль адсутнічаюць.

*ЯЛУГІН:*–Немалаважная прычына, каб кнігу дапрацаваць. І тыраж яе быў маленькі.

*УЛАШЧЫК:* – Тыраж быў мізэрны. Да таго-ж, пасьля выхаду семнаццатага тому прайшло больш за семдзесят гадоў, а за гэты час кнігі, асабліва з большымі тыражамі, становяцца бібліграфічнай рэдкасьцю. Па-другое, за гэты час былі выяўлены й новыя варыянты летапісаў, і новыя летапісы ды хронікі. Па-трэцяе, летапісы можна было выдаваць згодна з існуючымі правіламі, якія й цяпер абавязваюць у СССР.

*ЯЛУГІН:* – Вы кажаце пра новыя матарыялы. А як і дзе праводзіліся іх пошукі, хто канкрэтна гэтым займаўся?

*УЛАШЧЫК:* – Калі было вырашана аб перавыданьні, а больш дакладна – аб новым і поўным выданьні летапісных матэрыялаў з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, Рускага й Жэмайцкага ці, як прынята называць гэтую сярэднявечную дзяржаву, *Вялікае Княства Літоўскае.* Тады акадэмік Ціхаміраў прапанаваў даручыць гэтую справу мне.

З чаго я пачаў? Перш за ўсё трэба было агледзецца, спачатку вывучыць, як выдаваўся семнаццаты том. Большасьць рукапісаў нашых летапісаў знаходзіцца ў бібліятэках і архівах Масквы й Ленінграду, адзін у Вільні, па адным у Варшаве, Познані й Кракаве. Гэта было тое, пра што ведалі й раней. Каб не прапусьціць чаго, я перабраў сховішчы Масквы, Ленінграду, Львова, Кіева й Вільні. У той час прыехаў з Польшчы супрацоўнік нашага інстытуту й сказаў, што ў Кракаве ёсьць адзін са сьпісаў „Хронікі літоўскай і жмойцкай". А потым доктар гістарычных навукаў Буганаў вярнуўся з Табольска ды паведаміў, што там у архіве знаходзіцца таксама вялікі „западно-русский" летапіс. Каб азнаёміцца з рукапісам, з Табольска яго выпісалі ў Масквы, а ў Польшчу давялося паехаць.

*ЯЛУГІН:* – Значыцца, не абышлося бяз добрых памочнікаў! А ці-ж пранырalі ўсе сховішчы ў Беларусі?

*УЛАШЧЫК:* – Зь беларускай Акадэміяй навук, зразумела, у мяне таксама наладзіліся добрыя сувязі. З Інстытутам Гісторыі, з Інстытутам Літаратуры. Я вельмі ўдзячны кандыдату філалагічных навук, старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытуту Літаратуры В. Чамярыцкаму, які падрыхтаваў для 32-га тому „Хроніку Быхаўца", а ў гэтым, 35-м томе – „Хроніку Сурты й Трубніцкага"...

*ЯЛУГІН:* – Калі ўжо пайшла гаворка пра канкрэтныя матэрыялы, то можа, вы скажаце некалькі слоў і пра апошнія летапісы, зьмешчаныя ў гэтых двух тамах?

*УЛАШЧЫК:* – Я ўжо сказаў, якія матэрыялы мы імкнуліся выдаць перш за ўсё. Абодва томы ўкамплектованыя матэрыяламі, што даюць уяўленьне аб гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў цэлым, а таксама асобных мясьцін Беларусі. Так, „Хроніка літоўская й жмойцкая", а таксама „Хроніка Быхаўца" прысьвечаны падзеям, якія адбыліся ў Вялікім княстве. Два летапісы: Баркулабаўскі, Панцырнага й Аверкі – апавядаюць галоўным чынам пра тое, што адбывалася ў асобных гарадох ці раёнах усходняй Беларусі; летапіс Панцырнага й Аверкі гаворыць пераважна пра Віцебск, а Баркулабаўскі, аддаў шмат увагі Берасьцейскай царкоўнай вуніі, асьвятляе падзеі канца XVI, пачатку XVII стагодзьдзяў у Магілёве, Віцебску, Полацку й Баркулабаве – пасёлку, што знаходзіцца недалёка ад гораду Стары Быхаў на Магілёўшчыне. У „Хроніцы Сурты й Трубніцкага" гаворыцца шмат пра Магілёў.

*ЯЛУГІН:* – А што-б маглі сказаць наконт мовы, на якой напісаныя дакумэнты? Мова-ж таксама дае пэўнае ўяўленьне аб гістарычным руху й накіраваньні ў жыцьці народу. Па мове нават можна вывучаць норавы. Нездарма моўная характарыстыка пэрсанажаў у літаратурным творы бывае ці не з самых эфэктыўных сродкаў раскрыцьця сутнасьці чалавека. Мне здаецца, і ў літаратурным творы гістарычнага напрамку нельга абыйсьціся бяз таго, каб нейкім чынам не наблізіць мову герояў да часу, у якім яны жывуць.

*УЛАШЧЫК:* –Напісана пераважная большасьць летапісаў на старабеларускай мове, але ў пачатку найбольш старэйшых зь іх знаходзяцца разьдзелы, якія адносяцца да эпохі Кіеўскай Русі, – яны напісаны стара рускай. Магілёўская „Хроніка Сурты й Трубніцкага" напісана па-польску.

*ЯЛУГІН:* – Але там нямала й чыста беларускіх слоў-выказаў.

*УЛАШЧЫК:* – Гэта лішні раз даказвае, што пісалі беларусы. У 35-м томе ёсьць адзін пераклад са старабеларускай на лацінскую, зроблены недзе ў сярэдзіне пятнаццатага стагодзьдзя, і другі ў 1550-м на польскую. Гэта, пэўне старэйшыя пераклады зь беларускай на чужаземныя мовы.

Што тычыцца ўжываньня старой мовы ў літаратурным творы, то зразумела. Такім чынам аўтар знаёміць чытача з гэтаю моваю й робіць дзейную асобу больш праўдзіваю. Але гэтым спосабам трэба карыстацца асьцярожна.

*ЯЛУГІН:* – Я згодны. Каб зразумець сэнс сказу, чытач не павінен корпацца ў слоўніках, інакш будзе губляцца галоўнае, дзеля чаго твор напісаны. З другога боку, я неаднаразова чуў ад чытачоў, што ім цікава, калі фраза мае, так сказаць, „гістарычную" афарбоўку. Трэба толькі адчуваць, да якой мяжы можна даходзіць.

Мікалай Мікалаевіч, я ўсё распытваў Вас, як прафэсійнага гісторыка. Але ваш адказ пра карыстаньне старой мовай у літаратурным творы – гэта ўжо думка й чытача мастацкай літаратуры. Таму цяпер я хачу даць пытаньне ўжо Ўлашчыку, які добра ведае гісторыю. Вя дома беларускія пісьменьнікі часта зьвярталіся й зьвяртаюцца да далёкай мінуўшчыны нашага народу. Вельмі добра карысталіся гістарычнымі крыніцамі й паданьнямі Янка Купала, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Барыс Мікуліч... У наш час многія людзі зачытваюцца гістарычнымі творамі Ўладзіміра Караткевіча. Есьць цікавыя аповесьці ды апавяданьні аб далёкім мінулым беларускай зямлі ў Барыса Сачанкі, Вольгі Іпатавай ды ў іншых пісьменьнікаў.

У нашую пару героямі твораў беларускіх пісьменьнікаў часьцей за ўсё зьяўляюцца найбольш ведамыя й найбольш гераічныя асобы: Скары-

*(працяг на 8-й бачынцы)*

# Даклад Новага Эмігранта з Беларусі ў З.Б.К.

Паважаныя спадарыні й спадары!

Дазвольце мне перш-наперш выказаць сваю шчырую ўдзячнасьць усім прысутным за магчымасьць сустрэцца з вамі. Мне вельмі прыемна вітаць прадстаўнікоў слаўнага беларускага народу, кіраўніцтва й сяброў Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Перад вамі чалавек пражыўшы ўсё сваё жыцьцё ў Савецкім Саюзе й цяпер робячы першыя крокі ў вольным сьвеце.

Я пастараюся расказаць аб тым, што я бачыў, што пережыў. Але да таго я мушу сказаць, чаму я тут перад вамі, што пабудзіла да гэтай сустрэчы.

У Савецкім Саюзе камуністычны рэжым зрабіў амаль што ўсіх людзей двудушнымі, яны адно кажуць, другое думаюць. Усе паседжаньні, сходы, мітынгі – гэта балбатня пра пасьпехі й дасягненьні, калі адзін гаворыць, а другія сядзяць у залі з прымусу. І калі я выяжджаў, я думаў што ніколі ніякая сіла на змусіць мяне прыймаць удзел у якімнебудзь паседжаньні. Што мая справа інжынерная ды навуковая, што я буду ціха працаваць і ні ў ва што ня ўмешвацца.

Але ўсё ў мяне перавярнула адна сустрэча ўжо тут у Канадзе. Мне давялося пазнаёміцца з Беларусамі. У іх я ўбачыў людзей, якія далёка ад сваёй бацькаўшчыны ўсёй душой і сэрцам з ёю. Якія жывуць дзеля будучыні свайго народу, людзей цікавых ва ўсіх адносінах, натхнёных і творчых. І вы ведаеце, я прачытаў у іх шмат такога, чаго ня вучылі ў школах у Саюзе, што там было забаронена. Я цяпер лепш ведаю гісторыю беларускага народу, яго сапраўдныя гадавіны (а ня тыя, што мы вывучалі). Чытаў пра дзень 25-га сакавіка, знаёміўся са зьместам дэклярацыяў Ураду БНР і г.д.

З сябрамі Раісы й Вінцэнта, з іх адзінадумцамі, калегамі спаткацца й цікава, і прыемна, і карысна. Бо мусіць, нельга быць усёж-такі няўтральнымі ў наш час. Трэба, каб ведаў сьвет, што робіцца на бацькаўшчыне, раскрываць вочы тым, хто верыць у хлусьню савецкай прапаганды. І я таксама жадаю зрабіць сумесна з вамі хоць што-небудзь у гэтым напрамку.

Я нарадзіўся, жыў, вучыўся, працаваў у Беларусі. Потым мне давялося шмат гадоў жыць у суседняй рэспубліцы – краіне з такім-жа цяжкім лёсам, таксама разтаптанай расейскім ботам. Але я ніколі не парываў сувязі з радзімай, бываў там па некалькі разоў у год – у радні, у сяброў, у камандыраўках, і там на невялікіх могілках у Барысаве дзьве дарагія мне магілы.

Я ня зьбіраюся рабіць які-небудзь даклад аб сытуацыі ў савецкай Беларусі, ці аб праблемах эміграцыі з СССР. Гэта толькі некаторыя ўспаміны пра тое, што я бачыў і адчуваў там. Можа гэта будзе цікавым для вас і дапоўніць тое, што вам ужо вядома. І выбачайце, калі ласка, за маю мову, могуць быць і памылкі.

Таталітарны рэжым пануючы ў Савецкім Саюзе, уплывае на жыцьцё народу ў цэлым і кожнае сям'і пасобку ўва ўсіх аспэктах: у пытаньнях правоў і духоўных свабодаў чалавека, нацыянальнай сьведамасьці, матэрыяльным становішчы. Адным словам і дома, і на рабоце ты ўвесь час адчуваеш дзе й пад чым кіраўніцтвам ты жывеш. Трэба адзначыць, што ў СССР за 63 гады йснаваньня гэтае сыстэмы ёсьць многа посьпехаў – у вывучэньні космаса, у некаторых галінах прамысловасьці, у культуры, у спорце й г.д. Напрыклад, беларускі народ можа ганарыцца сусьветна ведамымі трактарамі „Беларусь" Менскага Трактарнага Заводу, зьверхцяжкімі грузавікамі МАЗ і БелАЗ – Менскага й Жодзінскага аўтазаводаў. Між іншым, мне давадзілася бываць на гэтых заводах – гэта сучасныя прадпрыемствы, добра абсталяваныя, з высокім узроўнем мэханізацыі, вытворчасьці. Завод электронных вылічальных машынаў у Менску – самое вялікае й унікальнае прадпрыемства ў СССР па выпуску кампютэраў. Можна ўспомніць некалькі станка-будаўнічых заводаў у Менску, Віцебску, Воршы. Паявіліся зусім новыя для Беларусі галіны, як здабыцьцё й перапрацоўка нафты, калійных соляў і г.д. Але ўсё гэта не дзякуючы савецкай уладзе, а ня гледзячы на тое, што яна там пануе. Вядома, што навукова-тэхнічная рэвалюцыя прайшла па ўсім сьвеце й пры іншай сацыяльнай сыстэме, гэтыя посьпехі маглі-б быць значна большымі. І пры гэтым ня згубіўся-б чалавек, які стварыў гэта ўсё, а сам жыве бяз элемэнтарных свабодаў, на мізэрны заробак, ня ведаючы добра ні сваёй сапраўднай гісторыі, ні сваёй мовы.

Трэба напомніць таксама, што многае з пабудаванага рабілася й робіцца рукамі вязьняў, дармовай працай. Працоўную сілу для такіх будоўляў дастаўляюць ворганы Міністэрства Унутраных Спраў (МВА), Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі (КГБ) ды суды. Даволі часта, калі йдзеш па вуліцы ў Менску, ці якога другога гораду, натыкаешся на так званыя „зачыненыя аб'екты", аплеценыя калючым дротам з старажовымі вежамі па вуглох – ці будуецца новы завод, ці адрэзак дарогі, ці нават проста жылы дом.

Дзяржаўныя ворганы прапаганды безканца хваляцца пасьпехамі краіны, дэмакратыяй і свабодай, запісаных у канстытуцыі й іншых паперах. Фактычна гэтыя-ж правы ня існуюць. Возьмем, напрыклад, выбары ворганаў управы. Гэта камэдыя, бо ў выбарчыя бюлетэні запісана толькі адно прозьвішча зацьверджанае партыйнымі камітэтамі. Гэта выбары бяз выбараў. Але ў гэты дзень мільёны людзей цягнуцца на выбарчыя пункты каб атрымаць паперку й укінуць яе ў скрыню. За кожным домам, кожнай вуліцай закрапляюць так званых агітатараў. Яны змушаны забясьпечыць яўку на выбары ўсіх выбаршчыкаў. Інакш сам агітатар ня пойдзе дадому, пакуль усе яго людзі не прагаласуюць.

Памятаю, калі мы яшчэ былі студэнтамі ў Менску нас змушалі быць агітатарамі. Калі адкажашся, пагражалі выгнаць з інтэрнату. Дык калі доўга ня было нашых выбаршчыкаў, укідалі лісткі мы самі за іх. Ці ўкінь, ці ня ўкінь – усё роўна ў газэтах надрукуюць, што ў выбарах прынялі ўдзел і прагаласавалі за кандыдатаў у дэпутаты 99.5% выбаршчыкаў.

Свабода слова, сходаў, друку – усё гэта толькі на паперы, бо ўсё арганізоўваецца савецкімі й партыйнымі арганізацыямі. На дэманстрацыі нас выводзілі двойчы ў год – на першага травеня й на сёмага лістапада – дзень бальшавіцкага перавароту. А пра свабоду слова нечага й казаць. Вы бязумоўна ведаеце пра ўсе гэтыя „гулагі" ды набітыя нявіннымі людзьмі турмы.

У сталінскія часы за слова (а то й зусім ні за што) паперасаджалі й павысылалі мільёны людзей са ўсіх рэспублік. Я напрыклад, ведаў адну дзяўчыну – студэнтку Менскага Пэдагагічнага Інстытуту ў той час. Яна расказала ў інтэрнаце анэкдот пра калгасы й атрымала за гэта 10 гадоў лягеру. А майго сябру выгналі з унівэрсытэту за тое, што ён на ўрачыстым паседжаньні зрабіў нейкую заўвагу, калі выступаў сакратар партыйнага камітэту.

Пры Хрушчове было некаторае паслабленьне. Павыпускалі з турмаў і лягероў некаторую частку нявінна асуджаных. Потым усё зноў пачало заціскацца.

У сутнасьці ў апошнія гады зьмянілася толькі мера адказнасьці (раней было як што важнае – дык растрэл). Можа трохі меншая колькасьць засуджаных. Але падыход застаўся той самы: нельга нічога дрэннага сказаць пра ўладу, пра недахопы. Крытыкаваць можна ня сыстэму, а паасобных людзей – старшыню калгаса, дырэктара заводу й г.д. На гэтым пабудавана ўся крытыка, у тым ліку і ў друку. Вы ведаеце, што ёсьць часопіс „Вожык", „Кракадзіл" і другія дзе высьмейваюцца (часам даволі трапна) асобныя людзі.

Інфармацыя аб міжнародным становішчы, аб любой зьяве ў сьвеце падаецца з аднаго пункту гледжаньня – урадовага.

Гэтак пра падзеі ў Вугоршчыне ў 1956 г., у Чэхаславаччыне ў 1968 г., у Анголе, у Этыёпіі й г.д. пісалася аб інтрыгах заходніх імпэрыялістаў у гэтых краінах. А „савецкі народ" быццам працягваў брацкую руку дапамогі гэтым народам. Мала таго, нас зганялі на мітынгі для падтрымкі гэтае палітыкі.

Усе гэтыя дзеяньні стварылі нябывалы фэнамэн: большасьць насельніцтва краіны зрабілася крывадушнымі. Усе ведаюць, што трэба казаць на людзях, а дома й з блізкімі сябрамі гавораць усё наадварот. Гэта раскладае людзкія душы.

Значная частка жыхароў ня верыць у тое, што пішуць у савецкіх газэтах, ці што кажа савецкае радыё. Трэба адзначыць, што ў газэтах для замежнага чытача прапаганда больш гібкая, пішуць трохі йнакш. Напрыклад, я часам чытаў „Голас Радзімы". А для ўнутранага карыстаньня, для сваіх – пішуць абы што, абы забіць мазгі. Усе газэты падобныя па зьместу – ці гэта „Зьвязда", ці „Чырвоная Зьмена", ці „Советская Белоруссія" – усе аднолькавыя.

Амаль што ўсе людзі ў Беларусі слухаюць па радыё заходнія станцыі й толькі дзякуючы гэтаму ведаюць, што робіцца на сьвеце, ды й у сваёй краіне. Мы слухалі перадачы „Голаса Амэрыкі", ББСі, нямецкую хвалю, Ватыкан і др. Гэтыя радыёстанцыі можна слухаць больш-менш без перашкодаў, хаця й іх глушаць часамі. Але найбольш цікавыя для савецкага слухача перадачы радыя „Свабода". Яе больш усяго ненавідзяць савецкія ўлады й усе йх сілы накіраваны на яе глушэньне. Гэта робіцца перадатчыкамі армейскіх спэцыяльных станцыяў задача якіх ёсьць у часе вайны глушыць апэратыўную радыёсувязь войскаў ворага. Між іншым, глушэньне абыходзіцца даволі дорага, таму „Радыё Свабода" глушыцца больш у вялікіх гарадах. А трохі далей ад Менску, ці Віцебску ўжо можна яго слухаць.

Бальшавіцкая прапаганда сьцьвярджае, што ў Беларусі пабудаваны сацыялізм і што антаганістычных клясаў няма. Фактычна, існуюць клясы й антаганізмы між імі. Калгасьнікі нават цяпер без дазволу ўлады ня могуць пераехаць у горад. Між іншым, большасьць моладзі ўцякае з вёсак цераз армію: не вяртаюцца дамоў пасьля службы. Працаўнікі на прамысловых прадпрыемствах думаюць больш аб тым як больш зарабіць, ашукаць улады дый выпіць. Пьюць у ўсіх краінах СССР многа й ува ўсіх сфэрах.

Партыйныя й савецкія кіраўнікі жывуць сваім жыцьцём, не падобным да жыцьця народу. Гэтыя сучасныя паны ня жывуць з усімі й не адпачываюць з усімі. Ёсьць дамы для кіраўніцтва з раскошнымі апартамэнтамі, мноствам пакояў, абслугай і абаронай. Летнішчы для партыйных кіраўнікоў – гэта палацы, якія ня сьніліся былым паном – з басэйнамі, тэніскімі кортамі, фінскімі лазьнямі й г.д. Усё гэта абнесена высокім плотам і пільнуе міліцыя. І ўсё за кошт дзяржавы, не за свае грошы. Я бачыў гэтыя асабнякі пад Менскам, у Драздох – для самага высокага кіраўніцтва і ў Гарадзішчы – для людзей трохі меншага рангу. Ёсьць спэцыяльныя крамы для іх, дзе можна атрымаць усё, што толькі хочаш. Там дзе яны працуюць ёсьць закрытыя сталоўкі й буфэты толькі для іх. Стаіць ахрана. Каб зайсьці звычайнаму чалавеку, патрэбны пропуск. Так ёсьць у Доме Ураду, у будынку ЦК Партыі ў Менску й іншых гарадох.

Новая эліта не жадае, каб іх дзеці вучыліся з простымі людзьмі ў школах. Фармальна закрытых школ няма, але ў раёнах дзе жывуць партыйныя ўрадоўцы падбіраецца склад вучняў.

Нават жаніцьба ў іх ідзе больш паміж сваімі. На гэтай глебе здараюцца трагэдыі. Вось, напрыклад, адна гісторыя з добра знаёмым мне чалавекам. Колькі гадоў таму адслужыў хлопец у арміі, дэмабілізаваўся й застаўся ў вялікім горадзе на заводзе. Пазнаёміўся са студэнткай, ажаніўся з ёй, нарадзіўся сын. Прайшлі гады, былая студэнтка пасьля ўнівэрсытэту стала працаваць у савецкіх арганізацыях, а яе брат закончыў вышэйшую партыйную школу й пайшоў уверх. А мой знаёмы, як працаваў на заводзе, так і працаваў. Тымчасам жончын брат зрабіўся важным чалавекам, да яго хадзілі ў госьці такія самыя, дык простая радня кампраматавала яго. Адным словам, кончылася тым, што прымусілі яе разьвясьціся з мужам. Далі яму невялікую кватэрку, ён жыў там адзін. Я быў у яго на гэтак званым навасельлі ў гэтай кватэры. Зварыў ён бульбы, паставіў бутэльку, сядзелі мы, гаварылі. Ён заплакаў і кажа: – „Вось маё жыцьцё, зьвязаўся з панамі".

*– Д. Барысаўскі*

*

*(працяг у наступным нумары)*

# Turmoil in BAOC spreads

*By Valentine N. Horoshko*

The "Times" continues publishing articles on the status of litigation in the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church by Valentine N. Horoshko, a New York City attorney and authority on church litigation.

* * *

Litigation involving the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church (BAOC) which heretofore had been limited to the St. Mary of Zyrovicy Parish in Highland Park, New Jersey, has now spread to St. Cyril's of Turov Parish in Brooklyn, New York.

As in St. Mary of Zyrovicy, St. Cyril's litigation resulted from relatively inconsequential events. In the former a bishop replaced a parish priest; in the latter some demagogues have been inciting the parishioners to join another bishop's diocese. More specifically, Alexander Mickievic, as chairman of the parish council attempted to call a special general meeting for December 28, 1980, which failed to materialize. Shortly thereafter, Mr. Mickievic again in behalf of the parish council notified parishioners that a special general meeting had been scheduled for January 25, 1981, to consider a transfer of the parish to Archbishop Mikalay's diocese. Rev. Vasil Kendysh, rector of St. Cyril's who previously had advised Mr. Mickievic that such a meeting was improper and violated church law, along with Borys Daniluk and Roger Horoshko, members of the board of trustees at St. Cyril's, commenced action in New York Supreme Court to enjoin such a meeting. The court granted a stay until a hearing and the case is pending. Subsequently Metropolitan Andrew removed Alexander Mickievic as chairman of the parish council.

Meanwhile, the action in New Jersey which lay dormant since the court refused to act in October, 1980, due primarily to the uncertainty created by Archbishop Mikalay's purported ouster of his superior, Metropolitan Andrew, and the contested take-over by the former of St. Mary of Zyrovicy Parish, was reactivated with the inclusion of Vasil Rusak as an additional defendant. Thus there presently are two concurrent lawsuits involving the BAOC.

* * *

If some members of the BAOC thought that litigation could be limited to St. Mary of Zyrovicy Parish, they engaged in wishful thinking for the problem is more general and affects the church as a whole. In fact the situation which gave rise to this litigation may be a manifestation of the weakness in the Byelorussian community and its apparent propensity to become a tool in the hands of demagogues whose goal is the destruction of the BAOC.

Consider first the case of Rev. John Brucky. For thirty years John Brucky was an active and respected member of the Byelorussian communities in Canada, Detroit, Cleveland and California where he had lived and had a solid reputation among Byelorussians in other parts of the United States, Europe and Australia. During this time he set an example for his countrymen: he started with nothing; he worked; he studied; he became successful. In short, John Brucky went through fire and water with his countrymen and all had the highest respect for him.

For many years his friends sought to persuade John Brucky to take up the cloth for the benefit of his people. Indeed, one of the most vocal advocates was none other than Archbishop Mikalay. After much soul-searching John Brucky finally acceded and became priest in the BAOC two years ago. Archbishop Mikalay ordained him and congratulations poured in. At a dinner held in his honor in Detroit, one could not hear more eloquent praise for Rev. John Brucky – the next bishop of the BAOC.

One year later these same people whom Rev. Brucky had known for so many years and who had praised him for undertaking a substantial personal material sacrifice upon taking up the cloth, became his worst enemies. Today they view him as an outcast, a provocateur and even a communist. These very same "friends" with whom Rev. Brucky built a Byelorussian community after the war, now eagerly turn to a newly arrived prophet of whom they know very little yet extoll to the heavens while they disparage their old comrade. Rev. Brucky's best friends now are not his countrymen.

What caused this dramatic change in people? The answer, as illogical and incredulous as it may appear, is Metropolitan Andrew's replacement of Rev. Janowski by Rev. Brucky as rector of St. Mary of Zyrovicy. From that routine act which every bishop may perform in his capacity as bishop, litigation commenced in Highland Park, Archbishop Mikalay attempted to oust his superior and to take over the former's parishes, and a number of rabble rousers appear to have a certain degree of success in instigating some parishioners in St.Cyril's, Brooklyn, to join Archbishop Mikalay's diocese.

* * *

When viewed objectively, the events of the past year in the BAOC did little to enhance the image of the Byelorussian community as one where people act in a lawful and reasonable manner. On the contrary, an objective observer would perceive the Byelorussian community as one governed not by law or reason, but by some type of mass susceptibility to demagogy and a very definite lack of capacity for independent action. Certainly it is not the type of group which is capable of self-government.

If the present trend in the BAOC continues and members of the church continue to heed demagogues, chaos will result in the church which no doubt will lead to suggestions that members of the church look beyond the BAOC for some hierarch capable of bringing order to the church. It may be that some shall ask the Greek Partiarch or even the Moscow Patriarch to take the remnants of a split church under his protection, as a number of Byelorussian religious groups had already done in recent years seeking a more "canonical" church.

At present it appears that the fault lies not in the ecclesiastical administration of the BAOC, but in its people and parishioners who to date have shown every indication that they are incapable of exercising even a modest degree of independent judgement free from alien influences and a total failure in maintaining an independent church. If anything, the character of the Byelorussian people as shown in the last year of turmoil in the BAOC is one of servile acquiescence to foreign domination which is slowly but inexorably being tightened around the BAOC by the demagogues and prophets who proclaim that they are acting for the people.

**The Byelorussian Times**
ЧАС
Двумоўны беларускі часапіс у ЗША
**USPS 345–170**
**9–06 Parsons Blvd.**
**Flushing, N.Y. 11357**
**U.S.A.**
**A Byelorussian Newspaper**
**Published bimonthly in January, March, May, July, September and November.**
**Dr. Roger Horoshko, Publisher**
**Annual Subscription**
$8 in U.S. currency
$10 Canadian, £6 English
**Postmaster:**
Send address changes to the
BYELORUSSIAN TIMES
Box 141, Whitestone, N.Y. 11357
**Second Class Postage Paid at Flushing, N.Y. 11355**
„ЧАС"
Двумоўная
беларуская газэта
Выходзіць 6 разоў на год у студзені, сакавіку, травені, ліпені, верасьні й лістападзе.
Др. Р. Гарошка, Выдавец
Гадавая Падпіска
8 амэрыканскіх даляраў
10 канадыйскіх даляраў
6 ангельскіх фунтаў

УВАГА!

1) Рэдакцыя не прынімае да друку ананімных артыкулаў.

2) Артыкулы прынятыя да друку падлягаюць скарачэньню й карэкце.

## ХАЛОДНЫЯ ЗІМЫ НА БЕЛАРУСІ

Хведар Нарбут, беларускі гісторык 19-га стагодзьдзя, ў 4-м томе сваёй працы *Дзеі Народу Літоўскага*, падае кароткую інфармацыю пра халодныя зімы на Беларусі ў гадох 1018, 1291, 1296, 1306, 1322, 1349, 1408, 1423, 1426, 1459, 1548 і 1631 калі Балтыцкае мора было пакрыта лёдам і па йм можна было езьдзіць на санях ад Нарвэгіі й Швэцыі да Даніі.

## ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ/ЛІТОЎСКІХ ЗЕМЛЯЎ

*(працяг з 5-й бачынкі)*

лучэньні не падабалі князі смаленскія, але й далей яны хадзілі „з усею сілаю смаленскаю" разам із Альгердам на Маскву ў 1368, 1370 і 1372 гадох.

*(працяг у наступным нумары)*

## Ад РЭДАКЦЫІ

Прадаюцца гадавікі газэты *Беларускі ЧАС*. Цана аднаго гадавіка, уключаючы перасылку, 10 амэрыканскіх даляраў.

Просім зьвяртацца ў гэтай справе да рэдакцыі.

# Скарбніца Беларускай Гісторыі

*(працяг з 6-й бачынкі)*

на, Каліноўскі, Мсьціславец. Але-ж у нас было куды больш герояў, пра якіх мы даведваемся ў свой час, і, можа, гэта будзе ў выніку публікацыі невядомых цяпер крыніц Дарэчы, з Магілёўскай хронікі, зьмешчанай ў 35-м томе, стала ведама, як кончыў жыцьцё адзін з кіраўнікоў Крычаўскага паўстаньня сярэдзіны XVII ст. Вашчыла. Мне шкада, што я колькі ні „сватаю" тэму жыцьця Магілёва XVII–XVIII стагодзьдзяў, ніхто пакуль-што ня ўзяў яе. А якраз пра гэтую пару ёсьць надзвычайна цікавыя дакуманты. Героі-Магілеўчане, іх канфлікты, вопратка, сьвяты ды гэтак далей, самі просяцца ў раман ці аповесьць.

*ЯЛУГІН:* – Калі я казаў, што некаторыя старонкі летапісаў і хронік чытаюцца ня горш за старонкі добрага рамана, то меў на ўвазе перш за ўсё Магілёўскую хроніку. Мне асабіста яна дала матарыял нават для разуменьня больш раньняга часу, XVI стагодзьдзя. Пётр Мсьціславец нездарма быў зьвязаны з Магілёвам. Але падбіраюцца й да гэтай тэмы. Я ведаю, што Іван Чыгрынаў ужо выношвае такую задуму. І яшчэ некаторыя праглядваюцца да гэтай тэмы. Так што ў бліжэйшыя гады, спадзяюся, будзем нешта чытаць цікавае.

Мікалай Мікалаевіч, мы ўжо гаварылі пра вялікую карысьць летапісаў для нас, пісьменьнікаў, для ўсіх краяведаў. А як-бы вы вызначылі значэньне выданьняў для далейшага разьвіцьця беларускай гістарычнай навукі, для нашай культуры наагул?

*УЛАШЧЫК:* – Каб выказаць гэта ў некалькіх фразах, то першае, што можна сказаць, – вельмі важнае значэньне выдадзеных летапісаў у тым, што яны зьмяшчаюць у сабе вельмі істотныя даныя з гісторыі (галоўным чынам палітычнай) народаў: беларускага, жамойцкага, украінскага, польскага ды расейскага. Потым – гэта помнікі літаратуры, грамадзкай думкі ды гісторыі моваў. І наканцы, пра што мы ўжо гаварылі, – гэта збор у адзінае цэлае амаль усіх ведамых цяпер твораў летапіснага характару, што зьмяшчае ў сабе гісторыю Вялікага Княства Літоўскага ды паасобных яго раёнаў.

*ЯЛУГІН:* – З вашых слоў можна зразумець, што археалёгі й крыніцаведы вывучылі ня ўсе дакумэнты й крыніцы пра мінуўшчыну Беларусі?

*УЛАШЧЫК:* – Так. Магу сказаць, што толькі ў адной Маскве захоўваецца каля шасьці соцен тамоў матарыялаў так званай „Літоўскай Мэтрыкі", якія дасюль былі мала чапаныя дасьледнікамі.

*ЯЛУГІН:* – Пераканальна! Выходзіць, нас, чытачоў, наперадзе яшчэ чакаюць новыя цікавыя сустрэчы зь пісьмовымі помнікамі нашага краю?

*УЛАШЧЫК:* – Бязумоўна.

*ЯЛУГІН:* – Што-ж, набярэмся цярплівасьці ды будзем чакаць радасных вестак. Ну, а пакуль-што будзем чытаць уважліва гэтую кнігу. Тут ёсьць што пачытаць, ёсьць аб чым падумаць... Так што сардэчнае чытацкае дзякуй вам і вашым сябром за падарунак ад імя ўсіх, хто хоча ведаць мінуўшчыну свайго краю.